# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 48 (666) ГОД XIII 1 СНЕЖНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### НАРАДА АКТЫВУ

Нарада актыву Сямяціцкага аддзела адбылася ў Мілейчыцах 10 лістапада. На яе прыбылі сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк, сакратар павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах Вацлаў Майсюшка і кіраўнік унутраных спраў прэзідыума Павятовай рады нарадовай Антоні Леўчук. З дакладам аб дзейнасці аддзела і яго заданнях пасля V з'езда ПАРП выступіў старшыня аддзела Анатоль Мартыновіч. Ён ахарактарызаваў працу аддзела, яго супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі, а таксама з партыйнымі ўстановамі і органамі дзяржаўнай адміністрацыі. Дакладчык гаварыў далей аб вялікіх грамадскіх чынах паасобных вёсак, у якіх бяруць актыўны ўдзел члены нашага таварыства.

Шмат папрацавалі жыхары і моладзь Рагачоў, Мікуліч і іншых вёсак пры будове дарогі Мілейчыцы-Рагачы. У Вілінаве шмат грамадскай працы уложана пры пабудове бруку, а таксама пры пабудове дома культуры. Кошт пабудовы акрэсліваецца 550-ю тысячамі злотых. Палову гэтай сумы дасць вёска, прымаючы ўдзел у працы грамадскім чынам.

Члены БГКТ з'яўляюцца ініцыятарамі аматарскага руху. На 17 гурткоў беларускага таварыства ў Сямяціцкім павеце ў дзевяці гуртках добра развіваецца самадзейнасць. Найбольш выступленняў даў аматарскі калектыў з Вілінава, які на працягу трох гадоў выступаў больш 50-ці разоў.

У дакладзе старшыні аддзела многа месца было прысвечана недахопам навучання беларускай мовы.

«У нашым павеце, — гаварыў Анатоль Мартыновіч, — ёсць толькі дзевяць школ, у якіх навучаецца беларуская мова. Да нядаўна навучалася беларуская мова і ў вёсцы Верпаль. Але там з-за неразважлівасці кіраўніка школы навучанне беларускай мовы зліквідавана. Ёсць патрэба і магчымасць навучання беларускай мовы у такіх вёсках, як Нурчык, Машчона, Грабарка, Шаршэні, Слохі Анапольскія, Чорна Царкоўна, Мутна, Такары, Мельнік і іншыя.

У некаторых чатырохкласных школах, як, напрыклад, у Навасёлках і Столбіцах, дзеці не вучацца роднай мовы. А гэтыя ж дзеці ў пятым класе ідуць у Мілейчыцы і Вілінава, дзе навучаецца беларуская мова. І ў сувязі з гэтым паяўляецца аграмадная праблема і для настаўнікаў і для вучняў.

Прадстаўнікі паасобных гурткоў гаварылі аб чытальніцтве беларускіх кніжак, аб справах, звязаных з іх вёскамі, аб вялікім зацікаўленні савецкімі фільмамі, якія дэманструюцца кінаперасоўкай ГП БГКТ, аб патрэбе падпіскі на «Ніву».

Сакратар КП ПАРП Вацлаў Майсюшка падкрэсліў, што ўдзел БГКТ у грамадскім і палітычным жыцці павета даволі вялікі, і ад імя Павятовага камітэта партыі выразіў падзяку за вялікі ўдзел у працы грамадскім чынам беларускага асяроддзя.

Кіраўнік унутраных спраў прэзідыума ПРН Антоні Леўчук звярнуў увагу на тое, што дзейнасць аддзела павінна ахопліваць значна больш вёсак: «У павеце ёсць 17 гурткоў БГКТ — гэта вельмі мала».

Удзельнікі нарады прынялі план дзейнасці аддзела. (мх)



Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка ў час заключнага выступлення на V з'ездзе ПАРП.

**Закончыў сваю работу V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Лепшыя сыны і дочкі польскага народа абмеркавалі важнейшыя пытанні дзейнасці Партыі, намецілі новыя задачы ў справе сацыялістычнага будаўніцтва і шляхі іх вырашэння.**

**Удумаемся ў з'ездавыя пытанні.**

**У 1968 годзе наша народная гаспадарка атрымала нацыянальны даход, які перавышае ў 4 разы нацыянальны даход 1938 года. Больш чым у 13 разоў павялічылася валавая прамысловая прадукцыя і ў 1,6 раза — сельскагаспадарчая прадукцыя. Гэтыя паказчыкі пацвярджаюць перавагу сацыялістычнай гаспадаркі над капіталістычнай эканомікай.**

**Дзякуючы сацыялістычнаму будаўніцтву польскі народ вывеў краіну з адсталасці і галечы, дабіўся велізарнага развіцця культуры і цывілізацыі, значна прымножыў свой эканамічны патэнцыял.**

**У перыяд паміж IV і V з'ездамі адбыўся далейшы сур'ёзны рост эканамічнага патэнцыялу Народнай Польшчы. Асноўныя фонды ў народнай гаспадарцы павялічыліся за гэты час прыблізна на 25 працэнтаў. Прамысловая прадукцыя ўзрасла прыкладна на 50 працэнтаў. Толькі прырост прамысловай прадукцыі ў 1968 годзе перавысіць гадавы кошт усёй прадукцыі польскай прамысловасці даваеннага перыяду.**

**Побач з развіццём традыцыйных прамысловых раёнаў, створаны новыя прамысловыя акругі і цэнтры — Тарнабжэгскі, Плоцкі, Пулаўскі, Легніцка-Лагоўскі і Конінскі. Асаблівым поспехам гэтых гадоў з'яўляецца развіццё айчыннай горназдабываючай і сернай прамысловасці, у выніку чаго Польшча выйшла на шостае месца сярод сусветных вытворцаў серы і на пятае месца сярод яе экспарцёраў.**

**Галоўныя задачы, намечаныя IV з'ездам партыі ў галіне сельскай гаспадаркі, выконваюцца паспяхова. У 1965—1967 гадах Польшча дабілася, у параўнанні з 1962—1964 гадамі, прыросту валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі на 15 працэнтаў. Сістэматычна павышаўся за мінулае пяцігоддзе жыццёвы ўзровень усяго насельніцтва, раслі яго рэальныя даходы. Перыяд з часу папярэдняга з'езда характарызуецца інтэнсіўным развіццём народнай адукацыі. Значна палепшылася ахова здароўя.**

**Плануецца павысіць у 1969—1970 гадах нацыянальны даход прыкладна на 12 працэнтаў. Мяркуецца, што ў 1971—1975 гадах нацыянальны даход узрасце прыкладна на 36 працэнтаў. Агульны фонд спажывання ў наступнай пяцігодцы павялічыцца амаль на 27—29 працэнтаў.**




**Вялікае значэнне для будучага эканамічнага развіцця Польшчы будзе мець расшырэнне ўзаемнага тавараабмену паміж дзяржавамі сацыялістычнай садружнасці на базе паглыбленай спецыялізацыі і кааперавання вытворчасці.**

**Усебаковае сацыялістычнае развіццё нашай краіны, — падкрэслівалася на з'ездзе, — адбываецца ва ўмовах класавай барацьбы, якая абвастрылася пасля IV з'езда. Правыя грамадскія сілы і ўзаемадзеючыя з імі рэвізіяніснкія групоўкі спрабавалі выклікаць сярод нашай грамадскасці ідэалагічны хаос і палітычную дэзарыентацыю. Працаўнікі сацыялістычнага ладу добра ўсведамляюць тое, што сацыялізм так глыбока ўкараніўся ў свядомасці працоўных мас, што адкрытае выступленне супраць яго сацыяльна-эканамічных асноў не мае ніякіх шанцаў на поспех. Таму антысацыялістычныя элементы старанна ўтойваюць сапраўдны палі-**

**(Працяг на стар. 5)**

# ШЛЯХІ ДА ПОСПЕХАЎ ШКОЛЫ Ў ОРЛІ

Настаўнікі пачатковай школы ў Орлі — гэта маладыя кадры педагогаў, выхаваныя і адукаваныя ў сацыялістычнай Польшчы. Апошнія словы прымяняю не для чыстай рэторыкі, для падкраслення далейшых сцвярджэнняў, ілюструючых дасягненні школы.

Каб усведаміць хуткасць перамен у арлянскай школе, неабходна аглянуцца на некалькі год назад. Пяць год таму кіраўніцтва пачатковай школы ў Орлі ўзяў на сябе малады настаўнік, выпускнік педліцэя ў Бельску, а потым кафедры бел. філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта **мгр Аляксей Карпюк.** Узровень школы мелі аказію сцвердзіць тады прыехаўшыя сюды візітатары з Куратарыі. Вынікі былі плачэўныя. На падставе праведзенай праверкі вынікаў навучання, візітатары па двух прадметах паставілі дрэнныя ацэнкі. Можна сабе ўявіць атмасферу, пануючую сярод настаўнікаў. У такіх выпадках найбольш астаецца думаць і «перажоўваць» кіраўніку. Паехаў ён у мясцовы аддзел асветы, каб запытаць, што далей рабіць. У інспектараце сказалі, што няма чаго непакоіцца, а трэба ўзяцца за работу. Каб сапраўды паправіць вынікі навучання, патрэбны 2—3 гады сістэматычнай працы.

— Горкая гэта была праўда для мяне, маладога кіраўніка, — успамінае А. Карпюк. — Падумаў я, што апрача таго яшчэ штосьці трэба рабіць. Наставіўся на спартыўную пляцоўку.

Апрацавалі дакументацыю, каштарыс. Пачалася праца. З дапамогаю, грамадскім чынам, уключыліся бацькі, якія




навазілі патрэбнай зямлі, а коштам гэтага быў наняты бульдозер, які ідэальна выраўнаў патрэбную плошчу. Адным словам, у каштарысе змясціліся. Паўстала прыгожая спартыўная пляцоўка. Пасля двухгадовай прыгнятальнай атмасферы першы вынік іменна ў спорце. Школа з Орлі нечпадзявана заняла першае месца ў павеце ў легкаатлетычным чатырохбор'і.

— У школе гэта падзейнічала на ўсіх як маланка, — гаворыць кіраўнік. — Да школьнага спартыўнага гуртка (СКС) пачало запісвацца, ці хацець запісацца, многа моладзі. На твары настаўнікаў паказалася як бы ўсмешка аблягчэння. Лягчэй стала і мне. Гэты поспех мы выкарысталі выхаваўча.

Адзначана было не толькі першае месца спартыўнай каманды школы, але пасыпаліся падзякі і пахвалы ў адрас настаўнікаў фізкультуры. А гэта не магло не адбіцца і не падзейнічаць на іншых членаў сям'і педагогаў арлянскай школы.

Адной з першых надараючыхся аказій была школьная матэматычная алімпіяда. Праведзеная кіраўніком школы праверка вынікаў навучання паказала, што вынікі папраўіліся. Аб гэтым даведаліся не толькі настаўнікі, але і вучні. Гэта пачало цешыць.

— У школе дык вы добрыя, — гаварылі настаўнікі, — але цікава як пакажацеся на матэматычнай алімпіядзе?

Аказалася, што было не кепска. Бася Федаровіч заняла першае месца ў сваёй групе.

Падобна справа мелася і ў арганізацыях. Гарцэрская дружына атрымала з Камэнды Гуфца дыплом прыкладнай дружыны. Значыць, гарцэры не засталіся ў даўгах. Школьны гурток Лігі аховы прыроды таксама атрымаў дыплом у спаборніцтвах.

**Працяг на стар. 4)**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### НАРАДА Ў МАІ

21 лістапада г.г. у Будапешце закончыла працу камісія, падрыхтоўваючая Міжнародную нараду камуністычных і рабочых партый ў Маскве.

У сесіі прымалі ўдзел прадстаўнікі 67 камуністычных і рабочых партый. Амаль усе прадстаўнікі бралі голас у дыскусіі.

Камісія пастанавіла, што **Міжнародная нарада камуністычных і рабочых партый будзе склікана ў маі 1969 года ў Маскве** з наступным парадкам дня: «Заданні барацьбы з імперыялізмам на сучасным этапе і адзінства дзеяння камуністычных і рабочых партый і ўсіх антыімперыялістычных сіл».

Вырашана таксама, што наступная сесія падрыхтоўваючай камісіі, якая адбудзецца ў Маскве 17 сакавіка 1969 г., разгледзіць праекты пастаноў, якія будуць унесены на нараду, а таксама вызначыць арганізацыйныя справы, звязаныя з правядзеннем нарады і дакладную дату яе.

Камісія паўтарае запрашэнне для ўсіх брацкіх камуністычных і рабочых партый, уключна з тымі, якія не прымалі ўдзелу ў працах, падрыхтоўваючых нараду, каб прынялі ў ёй удзел.

### ДЭВАЛЬВАЦЫЯ ФРАНКА

Заходнім светам на працягу кароткага часу страсянуў ужо трэці валютовы крызіс — дэвальвацыя франка ў Францыі. Год таму назад наступіла дэвальвацыя фунта ў Англіі. Другім этапам валютовага крызісу на захадзе была няўстойлівасць амерыканскага долара. Каб утрымаць долар, было вырашана назначыць на яго дзве цаны. І, урэшце, трэці этап пачаўся ад заходнегерманскай маркі, а кончыўся на французскім франку.

Да грознай сітуацыі франка між іншым давялі выпадкі, якія страсянулі Францыяй у маі гэтага года, таму што паменшыўся экспарт, а таксама хаванне французамі золата ў «панчохі».

У такой сітуацыі дзесяць найбагацейшых капіталістычных краін свету, г. зв. «Клуб 10» пастанавіў прызнаць Францыі крэдыт у суме 2 мільярдаў долараў. Але крэдыт загарантаваны многімі засцярогамі, між іншым, дэвальвацыяй франка ад 10 да 20 працэнтаў. Аднак урад Францыі адкінуў гэтую прапанову і вырашыў не дэвальваваць франк.

### ФАБРЫКА РАКЕТ

**У Савецкім Саюзе касмічныя ракеты прадукуюцца серыйна метадам канвернай вытворчасці.** Штурм космасу ўсё расшыраецца. На вакалзямных арбітах лётае больш 250 спутнікаў з серыі «Космас». Да гэтага ліку трэба дадаць некалькі міжпланетных станцый. А кожнаму з такіх касмічных аб'ектаў неабходна магутная ракета. Іменна таму прадукцыйныя планы фабрык ракет павялічваюцца з года ў год. З канвеера ракета пераходзіць на вельмі дакладны кантроль і ў канцы атрымлівае пасведчанне аб «гатоўнасці да палёту».

А. К.

## БССР

### КПБ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта КПБ. Удзельнікі пленума заслухалі даклад першага сакратара ЦК **П. Машэрава «Аб выніках кастрычніцкага (1968 года) Пленума ЦК КПСС і задачах Кампартыі Беларусі па далейшаму развіццю сельскай гаспадаркі».**

Ва ўступе да даклада **П. Машэраў** м. ін. сказаў:

«Аддаючы належнае станоўчым вынікам, пры аб'ектыўным разглядзе нельга не бачыць, што агульны ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі рэспублікі працягвае заставацца яшчэ не высокім. (...) Вялікае і нічым не апраўданае адставанне дапушчана ў калгасах і саўгасах нашай рэспублікі ва ўраджайнасці збожжавых культур, прадуктыўнасці жывёлагадоўлі і па некаторых іншых паказчыках. (...) Нам трэба карэнным чынам пераацаніць і пераасэнсаваць атрыманыя вынікі, крытычна прааналізаваць наяўныя недахопы, больш творча і смела весці арганізацыю ўсёй справы, пастаянна паляпшаць і ўдасканальваць работу з людзьмі, арганізацыю працы, больш актыўна вырашаць пытанні хімізацыі, меліярацыі зямель, комплекснай механізацыі работ, шырэй укараняць навейшыя дасягненні навукі, паўней выкарыстоўваць рэзервы калгаснай і саўгаснай вытворчасці з тым, каб у больш сціслыя тэрміны намнога пераўзыйсці сучасны ўзровень сельскагаспадарчай вытворчасці»..

У спрэчках па дакладу выступалі м. ін. **І. Мікуловіч** — першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ, **У. Мікуліч** — першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ, **В. Языковіч** — першы сакратар Гомельскага абкома КПБ і інш.

Пленум заслухаў таксама даклад сакратара ЦК КП Беларусі **В. Сурганава «Аб задачах партыйных арганізацый рэспублікі ў сувязі з пастановай кастрычніцкага (1968 года) Пленума ЦК КПСС «Аб знешнепалітычнай дзейнасці Палітбюро ЦК КПСС».**

### МАГІЛЁЎСКАЙ

Дні Магілёўскай вобласці адбыліся ў сталіцы Беларусі, Мінску. Прысвечаны яны 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Ва ўрачыстым адкрыцці Дзён удзельнічалі прадстаўнікі вярхоўных улад БССР. Кіраўнік дэлегацыі Магілёўскай вобласці, першы сакратар абкома КПБ Г. Крыулін м. ін. сказаў у час урачыстай прамовы:

«Наш край — гэта край легенд і выдатных здзяйсненняў, край мужных і таленавітых людзей. Ён стаў калыскай многіх барацьбітоў за свабоду, якія адстойвалі права беларускага народа людзьмі звацца — такіх, як паплечнікі **У. І. Леніна П. Лепяшынскі, У. Бонч-Бруевіч,** акадэмік **О. Шмідт,** легендарны разведчык Герой Савецкага Саюза **Леў Маневіч** і Герой Сацыялістычнай Працы **К. Арлоўскі,** двойчы Героі Савецкага Саюза Маршал Савецкага Саюза **І. Якубоўскі** і генерал Арміі **І. Гусакоўскі,** слаўны танкіст **С. Шутаў** і многія іншыя».

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЛЯ З'ЕЗДА

Пасля V З'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі ва ўсёй краіне шырыцца і паглыбляецца палітычнае ажыўленне. У дыскусіях і размовах, на сустрэчах з дэлегатамі З'езда і членамі партыйнага кіраўніцтва жыхары гарадоў і вёсак выяўляюць сваё перакананне аб асаблівай важнасці З'езда і яго пастаноў для далейшага развіцця ўсяго народа і пабудовы сацыялізма ў Польшчы. Удзельнікі шматлікіх мітынгаў і сустрэч высылаюць лісты да І сакратара партыі Уладзіслава Гамулкі, у якіх выказваюць свае пажаданні і запэўненні, што дaложаць усіх сіл, каб з годнасцю выконваць пастановы З'езда.

### У ЗАБЖЫ

23 лістапада у Забжы адбылася пасляз'ездаўская сустрэча партыйнага і гаспадарчага актыву Катавіцкага ваяводства з кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта партыі. На сустрэчы з прамовай выступіў І сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Катавіцах, член Палітбюро Эдвард Герэк. З'езд, — сцвердзіў прамоўца, — поўнасцю пацвердзіў факт, што айчынай нашай, нашым народам кіруе моцная, адналітая партыя, згуртаваная вакол свайго кіраўніцтва, вакол асобы таварыша Веслава. V з'езд пацвердзіў, што асноўнай крытэрыяй уласцівай паставы кожнага паляка — партыйнага і беспартыйнага — з'яўляецца яго асабістае, актыўнае дзеянне ў напрамку ўмацавання дружбы, брацкага супрацоўніцтва і саюза Народнай Польшчы з іншымі краінамі сацыялістычнага лагера, і перш за ўсё — з Савецкім Саюзам. Эдвард Герэк асабліва падкрэсліў, што праблема гаспадарчай інтэграцыі сацыялістычных краін з'яўляецца зараз асноўнай справай, ад якой залежыць далейшы тэмп гаспадарчага развіцця гэтых краін, а таксама новыя магчымасці ў барацьбе з імперыялізмам. Зыходзячы з гэтага, З'езд падтрымаў намаганні кіраўніцтва нашай партыі і асабіста тав. Уладзіслава Гамулкі ва ўмацаванні адзінства міжнароднага рэвалюцыйнага руху і прыдаў вялікую важнасць будучай нарадзе камуністычных і рабочых партый.

### ТРАНСПАРТ

Пачаўся ўжо асенні шчыт перавозаў на чыгунцы. У гэтым годзе чыгунка перавязе звыш 368 мільёнаў тон тавараў, гэта значыць, на 16 мільёнаў тон больш чымсьці ў мінулым годзе. У кожны дзень вагонамі перавозіцца зараз 1.100.000 тон тавараў.

### БЯСПЕКА І ГІГІЕНА ПРАЦЫ

Эканамічны камітэт пры Радзе Міністраў прыняў пастанову, акрэсліваючую арганізацыю, круг дзеяння, правы і абавязкі працаўнікоў службы бяспекі і гігіены працы, а таксама патрабаванья ад іх кваліфікацыі.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПАСЛЯЗ'ЕЗДАЎСКАЯ НАРАДА

22 лістапада ў зале пасяджэнняў Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку партыйныя і грамадскія актывісты Беласточчыны сустрэліся з дэлегатамі на V з'езд. Член ЦК партыі і І сакратар Ваяводскага камітэта тав. А. Лашэвіч расказаў прысутным аб удзеле ў працах з'езда дэлегацыі Беластоцкага ваяводства. У час дыскусіі прысутныя аднагалосна сцвярджалі, што зараз найважнейшай справай з'яўляецца тое, каб пастановы V з'езда дайшлі да найбольш шырокіх мас нашага грамадства. Удзельнікі нарады выступілі з прывітальным пісьмом да таварыша Уладзіслава Гамулкі, у якім завяраюць, што Беласточчына не пашкадуе сіл дзеля ажыццяўлення пастаноў з'езда.

### ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА...

...грамадскасць Беластока адзначыла ўрачыстым пасяджэннем, якое адбылося 23 лістапада г.г. у тэатры імя А. Вянгеркі. З прамовай да прысутных выступіў старшыня Прэзідыума МРН у Беластоку тав. З. Бэзубік. Гаварыў ён аб буйным развіцці школьніцтва і асветных устаноў у горадзе над ракой Белай. У час ўрачыстага пасяджэння траім настаўнікам былі ўручаны Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы. Траім іншым настаўнікам Беластоцкага ваяводства ў час ўрачыстасцей, якія адбыліся ў Бэльвэдэры, прысвоена званне «Заслужаны Настаўнік ПНР».

### ПРЫСЯГА

Пасля ўступнай ваеннай падрыхтоўкі навабранцы Падляшскай ваеннай часці Войск унутранай абароны 24 лістапада склалі ўрачыстую прысягу на вернасць сваёй айчыне і польскаму народу, на вернасць справе міру і сацыялізма. На салдацкую прысягу прыехалі бацькі салдат, прадстаўнікі мясцовых улад і палітычных арганізацый.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АЛІМПІЯДА

У Беластоку адбылася чарговая алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў. Прыступілі да яе найлепшыя калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і вучні сельскагаспадарчых школ. Пераможцамі аказаліся наступныя калектывы: з Кабыліна — Пагажалак Высока-Мазавецкага павета, з Плюшкеймаў Галдапскага павета і з Няцкова Граеўскага павета. Індывідуальныя ўзнагароды заваявалі К. Мадзалеўскі з вёскі Галашы-Дуб, М. Янкоўскі з вёскі Склоды-Баровэ і Э. Лапінскі з вёскі Скрыплева.

### УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ

У Ломжы адкрылі на грамадскай аснове Ўніверсітэт культуры. Два разы ў тыдзень — у суботу вечарам і ў нядзелю зранку — выдатныя спецыялісты будуць чытаць лекцыі. Праграма ўніверсітэта прадбачвае двухгадовы перыяд навукі. Заняткі ва ўніверсітэце даступны ўсім. Гэта каштоўнае мерапрыемства і варта, каб іншыя павятовыя цэнтры ўзялі прыклад з Ломжы.

(вр)




**Niedziela, 1.XII.**

9.25 Program dnia. 9.30 TV Kurs Rolniczy: „Prawidłowe warunki wychowu prosiąt". 10.05 „Przypominamy, radzimy". 10.15 PKF. 10.30 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia od przyjaciół" — koncert zespołów dziecięcych (Kijów). 11.00 Dla młodych widzów: „Sztafeta" (Budapeszt). 12.00 Dziennik. 12.00 „Żelazny Krzyż" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 13.10 „Pancernik Potiomkin" J. Afanasjewa. 13.40 „Przemiany". 14.10 Dla dzieci: „Calineczka" — film radz. 14.40 „Kapela". 15.05 „Bonanza" — film. 16.00 „Piórkiem i węglem". 16.20 „Feldpost Osten 1942—44" — film („Polacy na frontach II Wojny Światowej"). 16.40 „Śpiewa Marta Kubisova" (CSRS). 17.10 „Ludzie i zdarzenia". 17.30 Puchar Przyjaźni w Łyżwiarstwie Figurowym. 18.30 Filmowy program rozrywkowy. 19.00 Felieton literacki. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Bolero" — film fab. USA. 21.25 „Niedziela Sportowa". 21.45 „Ewa" — film.

**Poniedziałek, 2.XII.**

15.30 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV ,kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów „Zrób to sam". 17.45 Film radz. „Za południowym zerowym". 18.05 „Kino Krótkich Filmów". 18.45 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Maria i Piotr" — opowieść z Quai de Béthune. 21.30 „10 minut recenzji". 21.40 „Bryza". 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 3.XII.**

8.45 „Klucze do nieba" — film radz. 10.00 Dla szkół (kl. IV) „Szlakiem Łukasiewicza". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: Jerzy Szaniawski „Dwa teatry". 11.25 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II i III) „Orzeł Biały". 12.20 i 15.15 Przysposobienie Rolnicze: „Pasze przemysłowe w żywieniu trzody". 12.55 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.55 Centralna Akademia z okazji Dnia Górnika. W przerwie: 17.40 Dziennik. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Giełda Piosenki". 20.35 „Kominy nad Wartą". 21.05 „Święta wojna" — film fab. pol. 22.45 Dziennik. 23.05 Politechnika TV I roku.

**Środa, 4.XII.**

9.15 „Święta wojna" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Masa". 11.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Matematyka w szkole — „Symetria odcinka i kąta, zastosowania". 15.40 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 „Po szóstej". 18.45 Wszechnica TV: „Polski sezam". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Portfel" — nowela film. franc. 20.35 „Światowid". 21.05 PKF. 21.15 „Kniaź Igor" (montaż operowy). 22.25 Dziennik.

**Czwartek. 5.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Język polski: „Spotkanie z Wandą Żółkiewską". („Spotkanie z pisarzem"). 10.25 „Ślad w oceanie" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: „W starożytnym Rzymie". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl .II lic.) Język polski: „Mickiewicz — Słowacki — Krasiński". 13.15 Przerwa. 15.55 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.00 Film krótkometrażowy. 18.15 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.45 „Twórcy muzyki współczesnej" — Tadeusz Baird. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Refleksje". 20.35 „Podwójny nelson" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.40 Magazyn Medyczny. 22.10 Dziennik.

**Piątek, 6.XII.**

10.00 „Podwójny nelson" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.00 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: Mechanizmy w domu". 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.10 „Telekram". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Kiedy trzeba podjąć decyzję". 18.05 „Kino Filmów Amatorskich". 18.35 „Dialogi historyczne". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Impresje". Koncert rozrywkowy. 21.05 „Horyzonty". 21.35 „Stewardesa" — nowela filmowa radz. 22.10 „Rozmowy o książkach". 22.25 Dziennik.

**Sobota, 7.XII.**

9.05 „Za białym murem" — film fab. CSRS. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Układ oddechowy". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „W Karpatach". 12.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.25 Kurs Rolniczy: „Użytkowanie owiec". 16.10 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.25 Program tygodnia". 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 17.40 „Spotkania z przyrodą". 18.05 „Warszawa, ja i Ty". 18.35 Film rozrywkowy. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.50 „Barburkowa zabawa". 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 „Rzym miasto otwarte" — film fab. wł. (Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 29 listopada**

15.15 „Nowiny". 15.25 Program dnia. 15.30 Dla uczniów. 16.00 „Czyn" (ze Lwowa). 16.30 „5+2". 16.50 „Wietnam walczy, Wietnam zwycięży". 17.50 „W świecie tańca". 18.30 „Nasza poczta". 18.50 „Ja-z 60-ch". 19.50 Festiwal filmowy Białoruskiej TV. 21.20 „Na dobranoc".

**Sobota, 30 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz". 8.30 „Dwa losy i jeszcze jeden — twój". 9.00 „Źródło". 10.00 Turniej TV. 10.30 TV atlas narodów ZSRR. Litwa. 11.30 Film dla dzieci. 13.00 Hokej. 15.15 „Kontrola ludowa". 16.00 TV barwna. 18.30 „Czas". 19.00 Festiwal filmowy Białoruskiej TV 20.30 Koncert z Kijowa. 21.00 Dziennik.

**Niedziela, 1 grudnia**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 „Dla was, kobiety". 8.30 Olimpiada archeologiczna. 9.30 „Szkatułka muzyczna". 9.40 „Ludzie gwardii leninowskiej". F. Dzierżyński. 10.25 Film dla dzieci. 11.30 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1931" .12.00 Dla żołnierzy. 12.30 M. Łyńkow. „Wiekopomne dni". 13.00 Hokej. 16.00 „Postęp". 16.30 „Kiosk muzyczny". 17.00 TV barwna. 18.30 „Siedem dni". 19.15 Wystąpienie sekretarza KC KPB A. Smirnowa. 19.45 „Ojczyzna". TV Klub młodzieżowy „Mińsk". 20.40 Program muzyczny. 21.30 „Tylko fakty".

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 120

**Алесь Свісёк**



## ◆НЕ ВІНІ◆

**Загадала ты мне: «Не глядзі на яе,**
**не лаві вачэй дзіўных, як з казкі!»**
**Загадай жа лісцю — няхай сонца не п'е,**
**і зракуцца хай колераў краскі.**

**Загадай жа пчале — хай без красак жыве,**
**і арлу — хай жыве без прастору.**
**Загадай, хай ўсю ноч не пяе салавей,**
**хай рака яго песням не ўторыць.**

**Загадай, хай не моргаюць зоркі ў гары,**
**або месяц хай твар свой схавае,**
**хай маўчаць, не іграюць дубы-песняры,**
**як ім вецер галінкі кранае...**

**Не віні... Ні яе, ні мяне: незнарок**
**ляціць позірк мой з ёю сустрэцца.**
**Яна — проста агонь, я — начны матылёк,**
**што сляпіцай ў агонь той імкнецца.**

## •ЭКЗАМЕН•

**Ядвізе Урбанскай**

Сцяна дыстанцыі.
Надзьмуты афіцыйны стол.
Абыякавасць,
стома
ў сумных вачах.
Афіцыйная ветлівасць
ў масцы усмешкі.
Як баран на зарэз, падышоў.
Недарэчнасці плесці пачаў.
Ў галаве —
параліч мазгоў.
Пасля падбадзёрвання слухаў.
(Здавалася іроніяй, здзекам)...
Яшчэ сёння баліць аплявуха.
Але ў сэрцы —
і радасць і шчасце:
за сцяною
адкрыў чалавека.

## АЛЕСЬ БАРСКІ

*



**ад цяпла Тваіх далоняў**
**расцвітаюць ружы і цюльпаны**
**даспяваюць каласы пшаніцы**
**і дзіця смяяцца пачынае**
**ад цяпла ў нас сэрцы падабрэлі**
**заняліся полымем кахання**
**да цябе і да людзей**
**і да прыроды**
**ходзім мы ў ружовых акулярах**
**і вокал бачым толькі шчасце.**

*

Бывае што ў снежні
прыйдзе май
і з кветкамі
і з птушкамі
і з сонцам
і скажа:
— да цябе прыходжу спецыяльна
устань
танцуй
спявай
у сэрца глянь тады
яно шырэй грудзей
у ім змясціўся цэлы свет
і ўсё з-за сіненькіх вачэй
валошкавых вачэй дзявочых
бывае што ў снежні
прыйдзе май
і сонца ўзыйдзе сярод ночы
і скажа:
— уставай
спявай
кахай
бывае што ў снежні
прыйдзе май.

Калі расказалі гісторыю яе ўчынкаў, здалося, я чытаў ужо аб гэтым у кніжцы, якой ніхто ніколі не напісаў: бліск чалавечнасці ў тоўстай бабе, усім свінням свінні, некалі досыць прыгожай, але нязграбнай паненкі, што сляпіцаю ўперлася замуж за старога кавалера, спакойнага гаспадара на хутары пад лесам, хаце, дзе пахне сушанымі грыбамі, ядлаўцовым полымем, пахне цішынёю і брудам, непатрэбшчынаю, запацелым мужчынскім целам, не мытым ад нараджэння, сіроцтвам. Найважнейшае, ён хацеў жыць. Баяўся расстрэлу, а яна, сувязная банды і даносчык, магла ўсцерагчы яго і ўсцерагла, узамен выдаючы на смерць яго брата, а будучага свайго швагра, багатага, дзесяцігектаровага, з будынкамі і ўсім дабром, ладны пасаг. Такім чынам шэф банды выгодна пазбыўся гэтай сваёй каханкі, нязграбнай, але ўпартай кандыдаткі на жонку, бегаўшай за ім па лесе і пасля таго, як засталася замужам на хутары, да першага дзіцяці. Банду разграмілі. Яе муж, лялекаватае цяля, зразумеўшы ўрэшце ўсё, але запозна, добра заціснуты вуздэчкаю, запацелы, як і даўней, ды ўдвая мацней, бо на дзвюх гаспадарках, сваёй і брата (вечны яму спакой!), адплакаў шчырымі слязьмі, каб потым стацца скупіцаю, скнэраю, ці то ад жалю, што яго шчасце ашуканае, ці то ад старасці, якая прыйшла ў цела, не пасаромеўшыся яшчэ мала-




дой жонкі, не пашкадаваўшы яшчэ малых дзяцей.

У гэту заўчасную восень яго жыцця здарылася штосьці, чаго ён не зразумее: яна заказала помнік па забітым швагру, родным браце яго, косці якога дваццаць год валяюцца ў невядомых лясных урочышчах, мясцінах бандыцкіх гуляў. Помнік за сем тысяч, з магільнай абмуроўкай, у найлепшым месцы на могілках, помнік над магілаю, дзе няма і не было магілы, з дарагім малебенам, выпіўкай.

(Мая жонка растратніца, ах!).

Бліск чалавечнасці ў яе? Жарты! Раскаялася ў глыбі сэрца? Кпіны! У гэтай магіле пахавае яна мужа, бо: маюць, ён і брат, аднолькавыя імёны (выбрык кумоў п'яных), і нарадзіліся блізнятамі (выбрык прыроды, няважны, хто ж звяртаў увагу на такія выбрыкі ў замурзаным пачатку нашага веку, былі 17—18 дзяцьмі, не памятала маці іх нат' з выгляду, столькі радзілася ды памірала).

Фактычна дык не брат памагаў партызанам, але ён, муж яе будучы. Ды брат, так праўду кажучы, быў жанатым, яго вяселле мела адбыцца за тыдзень і гэта шэфу банды падсунула думку, якую скваплівa давёў да канца, нічым не рызыкуючы ў фармальных рапартах, дзе патрэбны адно імя і прозвішча, дата нараджэння з назваю вёскі, той самай. Спрыяльны збег акалічнасцей, хі-хі-хі... (смех, які захаборвае).

І злосць, агідная, бо няшчырая.

Яна:

— Які з цябе брат!? Грошай на помнік яму шкадуеш, бойся Бога! Мала табе ўсяго, з сабою на той свет павалачэш усё? З яго ж гаспадаркі карыстаем... (тут незнарокам сказала).

Ён:

— Ну, ша, ша-а...

Яна:

— Я табе дам, «ша»! Свіння ты! Ы-ы, ты...

І так далей.

Элегантка, халера, помнік мужу выфундавала! Памёр даволі хутка, яна, доўга не чакаючы, пусцілася ў сабачую скуру. Загінула ў аўтамабільнай катастрофе. Машына разваліла хлеўчык , бэлька спляшчыла шафёрку.

**Сакрат Яновіч**



**Іван Чыквін**

*

### На дзень марозны...

**За дзень марозны расспяваліся гадзіны**
**замёрз пад дахам вадасцёк**
**скідаю вопратку**
**скідаю ўспаміны**
**сядаю ля акна**
**бліжэй да краявіду**
**і цешуся жыццём**

**жыццём да болі белым**
**на двор зышоўшы з паліклінік**

**не вытрымалі**
**клён і ясень**
**скептык і цынік**
**галосяць**
**успамінаючы восень**
**дзень ясны**
**паліць падошвы белая простынь**
**брэша на вецер сабака бясхвосты**
**санкі спаўзаюць з чахотачнай горкі**
**хлопчык на санках курыць махорку**
**вароны за сонца чырвонае б'юцца**
**крыламі смярдзючымі**
**а па-над лесам па гарызонту**
**здалёк ад цывілізацыі**
**бегае шчасце маё...**
**Маё шчасце баіцца стронту**
**і радыяцыі!**
**А тут столькі холаду**
**каб крыху цёплай Азіі**
**і дабраты Будды**
**корчыцца кругагляд пешай фантазіі**
**якая не вядзе нікуды.**



**Яша Бурш**



## ◆Агарак вёскі◆

Вёска ўрасла ў пейзаж
за пушчай
як у бога за плячыма
раніцаю думкі
снеданнем няслі
як жэртву ў неба
ды вось проста
людская злосць
пламенем у вёсцы заквітнела
лёс кучаравымі агаркамі
бы ягняты
палажыўся
вецер ліжа
дваццатага веку нараджэнцаў

## Перакорлівасць

**Мае настроі**
**як арэлі**
**у звонкасць смеху**
**да правалаў жалю**
**гойдаюць дзявоцкасць**
**майго грэху**
**каб мне млосна**
**было**
**са мною**
**каб мне горка**
**было**
**з грэхам**
**а я час**
**у кужаль нерваў**
**спавіваю**
**я без часу**
**са мной настроі**
**не гуляюць**

## ЕЖЫ ПЛЮТОВІЧ

Ежы Плютовіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў Бельску Падляшскім. Закончыў Агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску. Цяпер працуе ў аддзеле асветы і культуры Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Бельску Падляшскім.

Ад перакладчыка: «З паэтычнымі спробамі гэтага сціплага і ўражлівага юнака я пазнаёміўся на старонках цэнтральных польскіх літаратурных штотыднёвікаў «Kultura» і «Współczesność». У яго вершах мяне завараджыла паэзія нашых падляшскіх рэаліяў, якія вельмі рэдка можна сустрэць у фактуры сучаснай польскай паэзіі. Чытаючы іх, мне здалося, што яны па-майстэрску сплялі ў арыгінальны вянок паэтычнага вобраза прыроду, дзень учарашні і дзень сённяшні радзімых мясцін маладога паэта.

## •РАЗВІТАННЕ•

рака сатканая з цішы падляшскіх ніў
там макі самкнулі
пажадлівыя вусны
пясчынкі спелі ў шчылінах
спустошаных клуняў

ды часам
на змярканні
чорныя матылі жыраваць ляцелі
спяваў ужо певень на плоце шолах белых касцей
мох барадаты ўторыў
у кароне асату і рэзед

з-над ракі іржаў чэрап каня
на калок уваткнуты
і скавытаў апошні сабака раз'еханы возам
драбіністым

былі там дарогі шматкратна зарослыя
і быў Хрыстос прыдарожны з галавою адцятай
снарадам

а ціш як кот мурлыкала
пад заняпаўшым скляпеннем

**З польскай пераклаў Мікалай Гайдук**



Тралі ў Старым Ляўкове. Фота Янкі Цялушэцкага

## КНІГІ

# НАРОД — ЯГО МІНУЛАЕ І БУДУЧЫНЯ

Выйшла нядаўна ў свет новая кніга Юзэфа Халасінскага, вядомага сацыёлага старога пакалення, пад загалоўкам «Kultura i naród». Кніжка з'яўляецца сабраннем навуковых артыкулаў на тэму сацыялогіі народа, друкаваных у розных часопісах у пасляваенны перыяд.

Асаблівай увагі заслугоўвае першы са змешчаных у кніжцы нарысаў пад загалоўкам «Культура і народ і пераўтварэнні сучаснага свету». Напісаны ён быў у гэтым годзе ўжо пасля сакавіцкіх падзей, спецыяльна для гэтага кніжнага выдання. Аўтар вядзе вострую палеміку з некаторымі сацыёлагамі і філосафамі на тэму ролі і значэння нацыі і нацыянальнай свядомасці ў сённяшнім свеце і ў жыцці сённяшняга чалавека. Ці нацыянальнае пачуццё і цесная сувязь з нацыяй з'яўляюцца стымулам ці перашкодай ва ўсебаковым развіцці адзінкі. Ці ў меру нарастання тэхнічнага прагрэсу нацыянальныя сувязі будуць слабець ці ўзмацняцца? На гэтыя і шэраг іншых падобных пытанняў прабуе ў сваёй кніжцы знайсці ўласцівы адказ прафесар Ю. Халасінскі.

Стаіць ён на пазіцыі вялікай трываласці нацыі і нацыянальнага пачуцця, вялікай маральнай і выхаваўчай іх вартасці. Гаворачы аб трываласці нацыянальных і этнічных сувязей і пачуццяў, аўтар указвае на прыклад Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе і зараз розныя этнічныя групы эмігрантаў утрымліваюць цесныя сувязі і пачуццё іншасці ў адносінах да іншых груп, а таксама пачуццё этнічнай ці нацыянальнай прыналежнасці. Пры аказіі аўтар паклікаецца на выказванне польскага сацыёлага Флёрыяна Знанецкага ў 1953 годзе на з'ездзе амерыканскіх клубаў польскай культуры. Знанецкі быў тады старшынёю Амерыканскага сацыялагічнага таварыства. Сцвердзіў ён, што далейшае развіццё чалавецтва патрабуе, каб кожны чалавек прымаў аднолькава актыўны ўдзел ў прынамсі двух нацыянальных культурах, поўнасцю дацэньваючы абедзве. Халасінскі паклікаецца на прыклад амерыканскіх яўрэяў, якія, не перастаючы быць яўрэямі, прымаюць адначасова актыўны ўдзел у амерыканскай культуры.

З іншай закранутай у кніжцы праблематыкі асабліва павучальныя і цікавыя заўвагі аўтара на тэму ролі гісторыі ў нацыянальнай свядомасці і працэсу ўзнікання і развіцця нацыянальных легендаў, якія з'яўляюцца неадлучным элементам нацыянальнай свядомасці. Увагі заслугоўвае таксама друкаваная ў апошняй кніжцы Ю. Халасінскага праца пад загалоўкам «Ідэя нацыі і ідэя сацыялізма ў гісторыі сучаснай Еўропы». Аўтар паказвае вялікую ролю, якую адыгралі гэтыя дзве вялікія ідэі. Ю. Халасінскі ў ідэях нацыянальнага адраджэння і ідэях барацьбы за нацыянальную справядлівасць бачыць многа супольнага. Абедзве гэтыя ідэі з'яўляюцца імкненнем да фармавання грамадскага жыцця ў рамах грамадска-маральнага ладу. (п)

## ВУЧОБА ГАСПАДАРОЎ

# ПЛАНЫ і ВЫНІКІ

Будучы на перадз'ездаўскай павятовай канферэнцыі ў Бельску, пачуў я такі голас: «Каб неяк павысіць ранг нашых школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі! Бо дзяржава дае нам многа штучных угнаенняў і ўсяго іншага, але калі іх не ўмеючы прымяняем, то можа так быць, як у нашай вёсцы: як напырскаў на пустазелле ў ільне, то не было не толькі зелля, але і ільну». Словы дэлегата на канферэнцыі павінны радаваць. Радаваць не таму, што можна знайсці тут многа сялянскага гумару, але таму, што старэйшае пакаленне гаспадароў пачынае зварочваць увагу на сельскагаспадарчую адукацыю. Зразумела, што такіх галасоў у нашых вёсках яшчэ не надта многа, але важнае і каштоўнае тое, што ўжо яны ёсць.

Шмат ёсць спосабаў, якія прымяняюцца, каб павысіць сельскагаспадарчую культуру. Найбольш распаўсюджаным спосабам з'яўляецца сельскагаспадарчая падрыхтоўка гаспадароў, якая праводзіцца ў паасобных вёсках. **У Сакольскім** павеце курсы сельгаспадрыхтоўкі маюць быць закончаны да 1970 года. Першым паказчыкам, які сведчыць аб падрыхтоўцы гаспадароў да сучаснага гаспадаравання, з'яўляецца факт, што ў тэарэтычных занятках прымала тут удзел 85—87% сялян, якія сустрэліся са спецыялістамі розных галін сельскай гаспадаркі. Можна мець пэўныя заўвагі да практычных заняткаў, якія праводзіліся ў рамках курсаў. Згодна з данымі сакольскага Прэзідыума ПРН, прымала ў іх удзел толькі 50—55%. Але ў пэўнай меры справа мела характар аб'ектыўны, таму што практычныя заняткі прыпадалі якраз на час найбольшых палявых работ. Зрэшты, над арганізацыйным бокам вырашэння гэтай справы трэба падумаць. Аднак успамянуты факт ні ў якім выпадку не можа паменшыць канкрэтных эфектаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі на Сакольшчыне.

Сакольскія гаспадары арганізавалі 11 груп, у якіх вядуць **самаадукацыю.** 58 гаспадароў падсеялі кармавыя расліны пад галоўныя культуры, а 19 — засеялі пажніўныя азімыя культуры. Дасягненні (зарэгістраваныя) можна адзначыць і ў галіне жывёлагадоўлі. Гаспадары Сакольшчыны пабудавалі 31 сіласную яму, 22-ое засіласавалі зялёнкі і аж 183 гаспадары пабялілі хлявы. Можна быць упэўненым, што за год-два гэтыя лікі на Сакольшчыне будуць смешна малымі. Але экспануем іх таму, што яны сталі першымі, дзякуючы якім і па прыкладзе якіх прыдуць новыя.

Сельскагаспадарчай адукацыі, перш за ўсё, моладзі, прысвячаюць вялікую ўвагу павятовыя ўлады Саколкі. Каб уласціва кіраваць рознымі формамі сельгасадукацыі, створаны павятовы каардынацыйны калектыў. Заданне калектыву — каардынацыя сеткі СПР і ПР (пшыспособене рольнічэ) на тэрыторыі павета, а таксама аналіз рэалізацыі планаў адукацыі. Каардынацыйны калектыў зараз дыспануе дакладнымі лікавымі данымі. Статыстычныя даныя, сабраныя аддзелам асветы ў Саколцы, гавораць, напрыклад, што на 1 сакавіка г.г. аставалася на вёсцы **9.244** маладых ва ўзросце 15—30 год. З гэтага ліку (без вучняў пачатковых школ) **5.507** асоб працуе самастойна або дапамагае бацькам на гаспадарцы, **704** — вучыцца або скончыла СПР, **536** — ахоплена адукацыяй ПР.

Цікавыя лікі прадставіў аддзел асветы адносна прадбачанай колькасці моладзі, якая закончыць пачатковую школу і прыступіць да працы на гаспадарцы ў 1968—1970 гадах. І так, у 1967/68 г. у агульнай колькасці 1182 абсальвентаў, на вёсцы застанецца **323,** г. зн., 27,3%, у 1968/69 г. адпаведна — 1225; 351; 28,6% і ў 1969/70 г. — 1.260; 365; 28,8%.

Трэба толькі цешыцца, што ў Саколцы з такой дакладнасцю прыступілі да праблемы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі моладзі. Вышэй паказаныя праклады, а ў асноўным гэты апошні, могуць і павінны быць прыкладам для іншых паветаў. Так арганізаваны план дзеяння ў спалучэнні з імкненнямі такіх людзей вёскі, як паказана на пачатку, прынясе вельмі многа карыснага справе развіцця сельскай гаспадаркі на Беласточчыне.

**А. Карпюк**

# Шляхі да поспехаў школы ў Орлі

(Працяг са стар. 1)

У мінулым годзе адбылася кураторыйная візітацыя пазалекцыйных заняткаў. Візітацыя дала вельмі высокую ацэнку працы школы ў гэтым напрамку. Планаванне пазалекцыйнай працы на столькі тут цікавае, што куратория папрасіла зрабіць копіі гэтых планаў як узораў для іншых школ.

— Дагэтуль у школе было так, — сцвярджае Карпюк, — што школьныя арганізацыі абапіраліся на найлепшых вучняў. Адсюль просты вывад, што часта на адных і тых жа вучняў. З гэтым мы пачалі ваяваць у мінулым годзе, а ў гэтым — абавязвае строгая забарона. Усе вучні павінны прыймаць актыўны ўдзел у жыцці школы, як і ўсе настаўнікі. Разумеем, што маем пэўныя дасягненні ў працы нашай школы. Не ведаем, якую ацэнку могуць яны атрымаць, і таму свядома і з цікаўнасцю чакаем агульнай візітацыі школы.

У кароценькай публікацыі не пад сілу паказаць шмат іншых спраў арлянскай школы. Хацелася б падкрэсліць, што маладыя педагогі са школы ў Орлі пад кіраўніцтвам А. Карпюка змаглі пераадолець вялікія цяжкасці і, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, давялі школу да высокага ўзроўню, якім свядома цешацца.

На здымку: мгр А. Карпюк вядзе ўрок па гісторыі.

**А. Лабановіч**
фота аўтара

# ВАЕННАЯ ТРАГЕДЫЯ

У рэдакцыйным пакойчыку перад маім сталом сядзіць маладая, шчуплая жанчына. У яе вачах вялікае хвалянне.

— Я з просьбай да вас, — гаворыць. — Дапамажыце мне ў маёй бядзе.

— Якая ж у вас бяда? — пытаю.

— Бяда ў мяне яшчэ ваенная...

— Ваенная?! — не змог я стрымаць здзіўлення. — А колькі вам магло быць год у вайну.

— Гэтага я сама добра не ведаю, ды не ведаю... хто я ў сапраўднасці.

— Гэта як?

— А вось так.

І паплыла аповесць пра лёс жанчыны, якая зараз завецца Эвай. І зноў прыйшлося мне слухаць пра вайну, якая, самі ведаеце, закончылася 23 гады таму назад.

— Памятаю, — гаворыць жанчына, — на бела маляваны пакойчык. Была я там з братам. Яго, здаецца, называла я Юркам, а маё тадышняе імя — Крыстына. Так мне здаецца. Мама прыходзіла да нас толькі нанач. Прыносіла нам суп у галубым жалезным збанку. Гэты суп быў вельмі рэдкі і посны, знаходзілася ў ім толькі некалькі бульбінак. Сядзелі мы замкнутыя звонку на замок і нельга было нам выходзіць з гэтай хаткі. Але брат, ён быў старэйшы за мяне, праз акно вылазіў у агарод за морквай. Мы пастаянна сварыліся за гэтую моркву, бо брат мала мне яе даваў. Памятаю, што нейкія людзі — здаецца жанчына і мужчына, — праз шчыліну ў дзвярах падкідвалі нам скурачкі ад хлеба, якімі мы заядаліся як найлепшымі прысмакамі. Маму я памятаю як невысокую жанчыну, мела яна цёмныя валасы. была маладая і вельмі прыгожая. Яна часта нам спявала розныя песні. Я запамятала словы адной. Вось яны:

«А с колодца вода льётся,
Сербиянка моется.
Разрешите, Сербиянка,
С вами познакомиться».

Пра бацьку нам гаварыла, што ён жыве і калісьці прыдзе да нас... І прасіла, каб пра гэта нікому не гаварыць.



Эва Скалка (Крыстына) цяпер.

І вось аднойчы. У нашую хатку сабралося многа людзей — мужчын у ваеннай форме і жанчын. Мама завяла нас у другі маленькі пакойчык, загадала нам гуляць і нідзе не выходзіць. Мы з братам сядзелі на ложку. Увайшла мама з нейкім ваенным. Я не ведала яго, аднак адразу здалося мне, што гэта мой бацька. Ён схапіў мяне на рукі і моцна, моцна пачаў абдымаць і цалаваць... А мама была вясёлая, смяялася. Тады я пераканалася, што мой брат вельмі падобны на яго, на гэтага мужчыну. Ён быў высокі, шчуплы, бландзін, у зялёнай вайсковай вопратцы, з пагонамі, на якіх былі зорачкі. На галаве ў яго была фуражка з чырвонай зорачкай, зялёная рубашка перавязана была ў яго шырокім поясам з вялікай пражкай. Ён пасадзіў мяне і пачаў прыціскаць і цалаваць брата...

Тут фільм запісаны ў яе памяці абрываецца, наступаюць паасобныя трагічныя сцэны, якіх яна сама не можа дапасаваць да цэласці.

— Прыпамінаю, — гаворыць пані Эва, — што неяк апынулася я на гары нашай хаткі. Там ляжаў мой бацька з другімі вайсковымі. У руках трымаў карабін з нечым такім круглым. Я стаяла на драбіне, а ля драбіны ўнізе стаяў немец. Быў ён у доўгай палярыне і штосьці чорнае трымаў у руках. Пытаў мяне па-польску, ці няма нікога

 



# ДУМКА СТАЛА РЭАЛЬНАСЦЮ

На адным з пасяджэнняў нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта ПАРП нарадзілася думка, каб арганізаваць ваяводскі агляд мастацкіх калектываў, якія дзейнічаюць у асяроддзях нацыянальных меншасцей. Ініцыятыва была прынята Аддзелам культуры Прэзідыума ВРН і Ваяводскім домам культуры, і такім чынам мерапрыемства знайшлося ў праграме дзеяння рэсорта культуры на 1968/69 год.

Мэта ваяводскага агляду мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей: адзначэнне 25 год Польскай Народнай Рэспублікі, рэалізацыя пастаноў V з'езда партыі ў культуры, паказанне дагэтуляшніх дасягненняў і ўзроўню культурна-выхаваўчай працы, далейшая папулярызацыя форм і дзейнасці калектываў нацыянальных меншасцей у нашым ваяводстве.

Першы раз такое мерапрыемства арганізуем у ваяводстве ў такім шырокім маштабе і так усебакова абымаючае ўсе мастацкія формы, якія развіваюць у сябе нацыянальныя меншасці. Будуць гэта тэатральныя, эстрадныя, танцавальныя, інструментальныя, вакальныя калектывы Беларускага, Украінскага і Літоўскага грамадска-культурных таварыстваў, а таксама Рускага культурна-асветнага таварыства.

Мерапрыемства будзе праходзіць у двух этапах:

1. Агляды ў асяроддзях у рамах таварыстваў адбудуцца ад 1.II.—15.III. 1969 года.

2. Урачысты канцэрт найлепшых мастацкіх калектываў, выбраных у аглядах першага этапу.

Ва ўрачыстым канцэрце (ён адбудзецца ў другой палове месяца красавіка 1969 г.) прадбачыцца ўдзел 8—10 калектываў розных форм.

На пачатку лістапада г.г. быў створаны ваяводскі арганізацыйны камітэт, які будзе наглядаць за рэалізацыяй праграмы гэтага цікавага культурнага мерапрыемства.

Арганізатары зробяць усё, каб ваяводскі агляд мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей Беластоцкага ваяводства быў мерапрыемствам добрым, як па-мастацкім ўзроўні, так і ў арганізацыйным сэнсе.

Памагчы ў гэтым могуць самі калектывы. І тут заклік да ўсіх іх, каб неадкладна і моцна ўзяліся за падрыхтоўку праграмы.

Ад імя Ваяводскага арганізацыйнага камітэта жадаю ўсім калектывам добрага старту ў аглядзе і перамогі, якая адкрые дарогу да ўрачыстага канцэрта.

**Казімір Дэркоўскі**
старшыня Ваяводскага арганізацыйнага камітэта.

# ЗАСТАПОСЯ ПАПРАЦАВАЦЬ

Рэпертуар кожнага калектыву, які прыступае да агляду, павінен характарызавацца высокім ідэйным узроўнем. Павінен быць гэта рэпертуар новы, з якім калектыў не выступаў на іншых аглядах.

Тэатральныя гурткі павінны прадставіць поўнаспектаклевую п'есу або аднаактоўку на сучасную тэматыку. Могуць быць камедыі. Умовы агляду вызначаюць час для гэтай катэгорыі — 60 мінут.

Эстрадныя калектывы даюць лёгкія праграмы, нават у форме кабарэ. Тут будуць маналогі, дыялогі, сцэнкі, вершы, сатырычныя складанкі, інсцэніраваныя песні, музыка, мікра-конкурсы. Такая праграма павінна мець нейкую агульную тэму, напрыклад, «Вясна», «Ён і яна». «Маладосць», «Чаканне і сумаванне». Падрыхтаваць такую праграму нялёгка, таму трэба добра прадумаць канцэпцыю і падабраць матэрыялы. Павінны ўвайсці сюды і польскія творы. Час на выступленне — 40 мінут.

У танцавальных праграмах трэба ўзяць пад увагу перад усім сучасныя танцы — рэгіянальныя і нацыянальныя. Таксама характарыстычныя-беларускія і польскія. Час — 20 мінут.

Сярод інструментальных калектываў выступае тры катэгорыі: калектывы вакальна-музычныя, джазавыя і бігітовыя. Праграма дапускае тры творы, ў тым ліку адзін польскі, а час усяе праграмы — 30 мінут.

У вакальных калектывах могуць быць нумары сола, дуэты, шматгалосныя, жаночыя і мужчынскія, а таксама мешаныя. Выступаць можна капелай, з акампаніяментам акардэона ці аркестра. Час — 30 мінут.

Калектывы, якія прыступаюць да агляду, павінны запоўніць як найхутчэй заявачную карту, якая далучаецца да кожнай умовы агляду, і прысляць яе да 20-XII. у сакратарыят агляду па адрасу: Ваяводскі дом культуры ў Беластоку, вул. Кілінскага, 8.

Часу нямнога, а арганізацыйнай працы шмат. Таму ўсе дзеячы і калектывы павінны ўзяцца за папулярызацыю і падрыхтоўку да агляду. Самая істотная справа — гэта інструктаж калектываў перад аглядам. Таму важна, каб як найхутчэй калектывы паведамілі ў сакратарыят, што прысту- паведамілі ў сакратарыят, што прыступаюць да агляду. Мы тады зможам праз тэатральную секцыю ВДК, павятовыя дамы культуры і павятовыя парадні К.О. арганізаваць дапамогу. Касцюмы можна будзе пазычыць.

Найвыдатней на гэтым мастацкім спатканні могуць выступіць беларускія мастацкія калектывы, якіх у нашым ваяводстве найбольш. Яны працуюць з усімі мастацкімі формамі. Цяпер толькі закасаць рукавы і да работы, каб на супольным спатканні ў Белавежы паказаць свае найлепшыя дасягненні.

**Дамініка Краўзэ-Вуйтовіч**
сакратар Ваяводскага арганізацыйнага камітэта.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА



## Будаўнікі города

Будаўнічая брыгада Сцяпана Іпалітавіча Абухоўскага — адна з найстарэйшых СУ—85 будаўніцтва № 11. Шмат добрых будынкаў пабудавала яна ў нашым горадзе. Цяпер члены брыгады закончылі апошняе перакрыццё на будаўніцтве новага дома сувязі.

**На здымку: (злева направа) Станіслаў Станіслававіч Панасюк, Сцяпан Іпалітавіч Абухоўскі і Іосіф Карлавіч Кандратчык.**

**Фота В. Косціна**

У бягучым годзе 44 зэтэмэсаўцы прыняты ў рады кандыдатаў на членаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Найбольш мнагалікая кандыдацкая група знаходзіцца ў эканамічным тэхнікуме, 14 асоб.

*

У вячэрніх школах актыву ўдзяляецца шмат увагі гістарычнаму мінуламу Бельскай зямлі. Адбываюцца таксама сустрэчы са старымі дзеячамі ППР, якія ў пасляваенныя гады змагаліся за ўмацаванне народнай улады на Бельшчыне.

## ЖМЕНЯ ФАКТАЎ З БЕЛЬСКА

СКО ў Педагагічным ліцэі праводзіць значную работу па прывіванню вучням звычак ашчаднага гаспадарання грашыма. Актуальны стан ашчаднасцей дасягнуў сумы 145 тысяч зл. Дзякуючы таму ліцэй мае магчымасць штогод арганізоўваць цікавыя краязнаўчыя экскурсіі ў розныя куткі краіны.

*

Рэстаран у гадзінах палуднавання спыняе продаж піва і іншых алкагольных напояў. У гэты час рэстаран танна і культурна абслугоўвае вучнёўскую моладзь, што даязджае ў мясцовыя сярэднія школы. Гэта надта карысны ды патрэбны эксперымент і добра было б, каб стаўся ён традыцыяй у працы бельскага рэстарана пры вуліцы Міцкевіча. (ся)

на гары. Я паглядзела на бацьку. Ён без слова пакруціў галавой, і я адказала, што нікога не бачу.

Маладая жанчына дрыжачымі рукамі ўзяла папіросу. Калі крыху супакоілася, дык зноў працягвала свой расказ:

— Што здарылася пасля гэтага, я не ведаю, не памятаю... Толькі больш ужо не давялося мне пабачыць ні маму ні бацьку... Апынулася я ў нейкіх людзей. Была там яшчэ з братам. Жанчына і мужчына разам са сваімі дзяцьмі страшэнна нас білі, знуткаваліся. Аднойчы выйшла я на вуліцу. Кругом было бела, быццам ад снегу. І з гэтага часу запамятала я асмалены комін і пажарышча ад нашай хаты. Тады недзе прапаў мой брат, а мяне забралі іншыя людзі.

Тут неабходна адклікацца да памяці гэтых людзей. Малая, праўдападобна, асірочаная дзяўчынка трапіла ў сям'ю Рэгіны і Сяргея Севераў, якая жыла ў Беластоку на вуліцы Віядукт, 6.

— Узяла я яе, — гаворыць Рэгіна Север, — у нейкіх людзей з вёскі Бацечкі, што пад Беластокам. Солтыс гэтай вёскі мне яе выдаў. Ксёндз Абрамовіч у касцеле святога Роха аб'явіў, што там знаходзяцца бяздомныя сіроты. Дзяўчынка ад пабояў мела усё чорнае цела, а была такая галодная, што кінулася на сырую бульбу. У нас сваіх дзяцей не было, дык мы рашылі яе гадаваць. Ахрысцілі ў касцеле на сваё прозвішча, Крыстынай яе назвалі. Але пасля мяне муж пакінуў і яе забраў.

Доўга яшчэ пані Эва блыталася ад людзей да людзей, урэшце трапіла ў сям'ю Кавальскіх, якія жылі ў Лапах-Оссэ. Там яе яшчэ раз ахрысцілі і так яна стала Эвай Кавальскай. У 1957 годзе выйшла замуж і мае ўжо трое сваіх дзяцей.

— А што з братам? — пытаю.

— Вось не ведаю, што з ім. Хацела б яго адшукаць. Звярталася да Чырвонага Крыжа ў Лапах, але там мне адказалі, што нічога не могуць зрабіць, бо не хапае персанальных дадзеных. Дык можа вы?

Што ж, мы як заўсёды адклікаемся да сваіх чытачоў, да іх памяці. Можа ўдасца супольна нам знайсці не толькі брата, але і ўстанавіць кім былі бацькі цяперашняй Эвы. З яе расказу вынікае, што яны геройскі загінулі, што замучылі іх гітлераўцы. Але ж былі ў іх таварышы па барацьбе, знаёмыя, сваякі. Да іх перш за ўсё звяртаемся, каб адклікнуліся, каб расказалі, што ведаюць, што памятаюць. Наш адрас: **«Ніва», Беласток.**

**Віктар Рудчык**

# НАША ПОШТА

**ВАЛЯ З ГАЙНАЎШЧЫНЫ ПІША: «Хачу добра шыць. Гэта ж не простая справа, трэба навучыцца. Чытала я ў мінулым годзе, што такія курсы былі арганізаваны ў Беластоку. Хаця я жыву на вёсцы, але на час курсаў я магла б паехаць у горад. Хачу ведаць, дзе такія курсы адбываюцца і на якіх умовах можна паступіць туды.**

**Апрача таго, прашу падаць, калі ёсць загалоўкі кніжак, якія вучаць гатаваць».**

АДКАЗ. У нашай краіне існуе некалькі спосабаў падрыхтоўкі краўцоў. Асноўную ролю ў падрыхтоўцы краўцоў спаўняюць кравецкія школы. Такая школа існуе ў Беластоку на вул. Сянкевіча 37 і называецца Zasadnicza Szk. Odzieżowa. Прыймаюцца сюды ў асноўным дзяўчаты пасля заканчэння пачатковай школы, а навука працягваецца 2—3 гады. Прафесію краўца можна таксама здабыць вучачыся ў краўца, які мае адпаведныя паўнамоцтвы, а потым здаць экзамены перад спецыяльнай камісіяй у Cechu Rzemiosł Różnych. Кравецкія курсы праводзіць таксама Spółdzielnia „Oświata" Wojewódzki Zakład Szkolenia Białystok ul. Gajowa 1. Вядзе яна розныя курсы і ў розных гарадах нашага ваяводства. Зацікаўленыя павінны непасрэдна зварочвацца да Спулдзельні па ўказаным вышэй адрасе. Інфармую адначасова, што курсы кройкі і шыцця для ўласных гаспадарскіх патрэб, у вёсках і гарадах, праводзяць ГС-ы, ВСС-ы і іншая спулдзельчасць.

Аб тым, як гатаваць ежу, ёсць вельмі многа кніжак. Падам толькі некаторыя з іх, якія, па-мойму, найбольш папулярныя і даступныя: **«Книга о вкусной и здоровой пище»** на рускай мове і «Kuchnia Polska» (многа выданняў).

**Дарадчык**

**Дарагія чытачы!**

Напамінаем, што «Ніва» зноў адкрыла куточак «Нашай пошты» на тое, каб мець магчымасць адказваць на шматлікія Вашыя пытанні. Адначасова заахвочваем усіх, каб пісалі, пыталі і раіліся з «Нашай поштай».

# НАШ НАПРАМАК

(Працяг са стар. 1)

**тычны сэнс і мэты сваіх дзеянняў пад прыкрыццём лозунгаў «выпраўленне сацыялізма» або «дэмакратычнага сацыялізма». Галоўным саюзнікам гэтых антысацыялістычных і рэакцыйных сіл стаў рэвізіянізм. Барацьба з ім і з іншымі антысацыялістычнымі сіламі застаецца адной з важнейшых задач партыі.**

**Важным фактарам павышэння ўзроўню цывілізацыі нашага народа і сур'ёзным рычагом сацыялістычнага выхавання моладзі і ўсяго грамадства з'яўляецца развіццё сацыялістычнай культуры. Дбайнасць, каб наша культура і мастацтва лепш і паўней адлюстроўвалі праўду і багацці духоўнага жыцця нашага народа, які будуе сацыялізм, з'яўляецца нашай паўсядзённай задачай.**

**З гэтых і іншых пытанняў, пастаўленых на з'ездзе, з пастановаў з'езда павінны браць натхненне і напрамак дзейнасці кожная грамадская арганізацыя, кожны актывіст.**



 

 

ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў ІМЯ БІЗНЕСУ

# БЕНЗІН З ТУРМЫ

Калі партугальскі інжынер Вінцэнтэ-і-Амат пабудаваў устаноўку для атрымання сінтэтычнага бензіну з бурых вугаляў па распрацаваным ім метаду — гэта было ў гады другой сусветнай вайны, — ён думаў, што аказвае сваёй краіне вялікую паслугу. У сувязі з вайной моцна скараціўся завоз у краіну ўсялякай прадукцыі. Не хапала бензіну. Да гэтага часу Амат не мог знайсці капіталіста, які зацікавіўся б новым метадам і прапанаваў бы грошы, неабходныя для яго рэалізацыі. Сінтэтычны бензін быў даражэйшы за натуральны і не мог з ім сапернічаць. Вайна павысіла цэны на бензін і ператварыла яго сінтэз у найбагацейшую крыніцу прыбытку. Але гады праз два раптам аб'явілі яго падманшчыкам і пасля заканчэння вайны бізнесмены, якія карысталіся вынаходкай Амата, пачалі сцвярджаць, што сінтэз бензіну не што іншае, як гіганцкае махлярства. Яго прыцягнулі да суда і прыгаварылі да 18 гадоў турэмнага зняволення. Фабрыка была прададзена на знос. Зусім відавочна, што Амат стаў ахвярай цяжкага судовага злачынства. Тут, у турме, з дапамогай яе дырэктара ён здолеў пабудаваць іншую, больш прымітыўную ўстаноўку. Яна пачала забяспечваць бензінам дзве буйнейшыя ў краіне турмы. Такім чынам, зноў было практычна даказана, што з бурага вугалю можна атрымаць бензін. Справу давялося перагледзець, і пасля сямігадозага зняволення Амат быў вызвалены.

Пры капіталізме праца многіх тысяч рабочых, інжынераў і вучоных з'яўляецца крыніцай вялікіх прыбыткаў для манапалістаў. Але ў пэўных умовах такія ж прыбыткі можа прыносіць і невыкарыстанне якога-небудзь навукова-тэхнічнага новаўвядзення. А іменна тады, калі ўводзімы ў вытворчасць новы тэхнічны метад становіцца канкурэнтам існуючага. Так, сінтэтычны бензін з каменнага або бурага вугалю стаў канкурэнтам бензіну, што атрымліваецца з нафты. Міжнародныя нафтавыя манаполіі адразу ж запратэставалі супраць яго ўкаранення і яшчэ ў 20—30-х гадах заключылі з канцэрнам «ІГ-Фарбэніндустры» пагадненне, якое перашкаджала распаўсюджванню сінтэзу бензіну за межы Германіі.

У барацьбе з канкурэнтамі манапалісты не выбіраюць сродкаў і ў выпадку неабходнасці не спыняюцца і перад злачынствам.

Адна заходнегерманская буржуазная газета выказвала меркаванні аб закулісных матывах гэтага судовага злачынства: «Ці існавалі пасля заканчэння вайны нейкія сілы, што прымалі ўдзел у змове супраць сінтэтычнага бензіну? Ці былі падкуплены саўдзельнікі?» Вядома, так і было. У гэтым пераконваюць і іншыя прыклады таго, як манапалістычны капітал па тых жа матывах растоптваў крымінальны кодэкс.

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## Псіхіятр супраць фанатыкаў

У некаторых краінах свету пагражальна расце колькасць пабоішчаў на стадыёнах у час футбольных матчаў. У розных краінах з фанатыкамі змагаюцца па-рознаму. Высокапастаўлены англійскі чыноўнік Дэніс Хоўэл, які займаецца пытаннямі спорту, нядаўна даў «асобае даручэнне» сусветна вядомаму псіхолагу Джону Харынгтону: «вывучыць матывы, якія падахвочваюць да буянства футбольных фанатыкаў на трыбунах і на падставе даследаванняў прапанаваць дзейсны сродак барацьбы з неўтаймаванымі балельшчыкамі».

Цяжка сказаць, ці ўвянчаецца поспехам англійская місія «псіхіятр супраць фанатыкаў». Ва ўсякім разе ў Мексіцы на псіхіятраў не вельмі спадзяюцца. Напярэдадні Алімпійскіх гульняў і чэмпіянату свету па футболу, паведамляе прэса, прынята рашэнне змяніць артыкул 10 мексіканскай канстытуцыі. Цяпер мексіканцам дазваляецца мець зброю толькі для абароны дома, але забараняецца насіць яе з сабой.

Дзейснае рашэнне, калі ўлічыць, што на трыбунах паўднёва-амерыканскіх стадыёнаў не раз гучалі выстралы не ў меру буйных балельшчыкаў.

САМ

### Як чысціць скураныя прадметы

Скураныя паліто, сумкі, чамаданы можна пачысціць растворам з вады, мыла і нашатырнага спірту, а потым для бляску злёгку працерці анучкай касторавым маслам.

### Раіць касметолаг

Узімку скура твару робіцца сухая, грубая. Натуральнай тлушчавай змазкі выдзяляецца менш. У гэтую пару года карысны масляныя і іншыя тлушчавыя маскі.

Падагрэйце адну-дзве сталовыя лыжкі алею. Змачыце ў ім тонкі слой ваты і пакладзіце яго на твар, пакінуўшы свабоднымі вочы, рот і ноздры. Вату накрыйце цыратай або пергаментам, а наверх сухім ручніком. Праз 15—20 мінут маску здыміце, скуру пратрыце сухой ваткай.

Пажыўныя маскі пажадана рабіць не радзей двух разоў на тыдзень.

### Фруктовыя і вінныя плямы

Плямы ад фруктаў і фруктовых сокаў выдаляюць сумессю гліцэрыну і гарэлкі (роўныя часткі). Застарэлыя плямы сыйдуць, калі патрымаць тканіну над посудам з варам і праціраць пляму воцатам. Для выдалення фруктовых і вінных плям можна выкарыстаць і лімонны сок. Застарэлыя плямы праціраюць злёгку падагрэтым сокам і трымаюць тканіну над варам. Лімонны сок можна напалам развесці з гарэлкай ці дэнатуратам. Пасля выдалення віннай плямы тканіну праціраюць анучай, змочанай у растворы вады з нашатырным спіртам.

КУЛІНАРЫЯ

### Бульбяныя кракеты з мясам

Надзёртую на тарцы бульбу адкіньце на сіта. Калі вадкасць сцячэ, дабаўце сырыя яйкі, соль і добра перамяшайце. Сфармуйце шарыкі, начыніце іх фаршам (свініну прапусціць праз мясарубку, пасыпаць соллю, перцам, дадаць падсмажаную цыбулю). Абкачайце гэтыя шарыкі-кракеты ў пшанічнай муцэ, змачыце яйкам, абкачайце ў молатых сухарах і смажце на тлушчы. Затым паліце маслам і тушыце. Падавайце, на стол гарачымі, са смятанай.

На 1,5 кг бульбы — 2 яйкі, 300 г свініны, 3 цыбуліны, 3 ст. лыжкі топленага сала, 2 ст. лыжкі мукі, 3 ст. лыжкі молатых сухароў, 3 ст. лыжкі смятаны.

### Лапша

Суп-лапша з курыцай застанецца празрысты, калі лапшу на адну хвіліну апусціць у гарачую ваду і адцадзіць на сіта, а тады пакласці ў булён і варыць да гатоўнасці.



Штодзённы друк паведамляе аб ўсё новых і новых правакацыях ізраільскіх агрэсараў. На здымку: ізраільскі пост над берагам Суэцкага канала.

МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Акул адганяе... колер

На з'ездзе акіянографаў амерыканка Яўгенія Кларк выступіла з цікавым паведамленнем аб сваіх доследах з акуламі. Яна расказала, што калі ў басейн, дзе плавае акула, апусціць кружок, афарбаваны ў жоўты колер, акула кідаецца наўцёкі. Драпежнік не адважваецца падплываць да яго нават тады, калі побач падвешваюць свежае мяса з крывёй, якое акулы вельмі любяць.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...навейшыя даследванні ўрачоў паказалі, што ў атмасферы, якая мае 30 працэнтаў вільгаці, чалавек можа вытрымаць тэмпературу ў сто градусаў гарачыні на працягу 30 мінут, у сто дваццаць пяць градусаў — 20 мінут і нават дзвесце градусаў гарачыні вытрымлівае на працягу трох мінут.

ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД




У палове лістапада 1943 года кружылі мы па Бельскім павеце, намагаючыся наладзіць сувязь з людзьмі. Не было гэта так проста, як я ўяўляў у Маскве, пішучы мемарыял начальніку Беларускага партызанскага штаба. Калі мы дайшлі да Райска, вёскі, на якую я найбольш спадзяваўся, выявілася, што яна наогул перастала існаваць. На месцы, дзе яна стаяла, было заворанае поле, а на ім адзінокая белая царква. Я не ведаў, што здарылася, потым мы высветлілі ўсё. А было гэтак: Райск быў вядомы з рэвалюцыйных традыцый, са славутага Райскага бунту ў міжваенным перыядзе. З першых дзён нямецкай акупацыі жыхары Райска, асабліва былыя члены КПЗБ і сімпатыкі гэтай арганізацыі, аказвалі дапамогу трапіўшым у акружэнне савецкім салдатам і афіцэрам. Частка камуністаў пайшла ў партызаны.

Гестапа ў Бельску ведала аб гэтай вёсцы, лічыла яе камуністычным гняздом, рыхтавала ёй страшны лёс. Чакала толькі прычыны. Яна неўзабаве з'явілася. 14 чэрвеня 1942 г. каля Райска партызаны застрэлілі трох немцаў. Цяпер была прычына, каб крывава расправіцца, каб кінуць жах на ўсю акоўліцу. 16 чэрвеня моцны атрад СС акружыў Райск. Жыхары вёскі былі сагнаны ў адно месца, каля царквы. Тут жа сто дваццаць два мужчыны, дваццаць пяць жанчын і двое дзяцей былі расстраляны. Вёска была спалена датла, платы і фундаменты разабраны, дрэвы вырубаны, а месца, дзе была вёска, заворана.

Гэта быў толькі маленькі фрагмент ажыццяўлення плана акупантаў. У 1940 годзе, калі нямецкі генеральны штаб апрацоўваў план «Барбароса», штаб Гімлера заняты быў падрыхтоўкай доўгатэрміновага плана масавага знішчэння насельніцтва «ніжэйшай расы» за дэмаркацыйнай лініяй Буга-Нарвы. Гэты план прадбачваў стварэнне спецыяльных аперацыйных груп, г.з. эйнзацгрупэн А, Б, Ц, Д. Кожная з іх мела дзейнічаць на тылах нямецкага фронту на акрэсленым стратэгічным напрамку. Заданнем іх мела быць «ачышчанне тэрыторыі ад варожых элементаў». Беластоцкая акруга аказалася ў абсягу групы Б, якая абымала ўсю Беларусь і частку РСФСР. Начальнікам аперацыйнай групы Б назначаны быў начальнік V аддзела галоўнага ўпраўлення бяспекі райха Артур Нэбэ. Эйнзацгрупэн дзяліліся на эйнзацкамандо, а гэтыя, у сваю чаргу, на зондэркамандо. Пасля нападзення гітлераўскай Германіі на СССР, згодна з планам, прыступае да дзейнасці на Беласточчыне беластоцкая эйнзацкамандо пад началам гаўптштурмфюрэра СС Готарда Біркнера, былога начальніка аддзела «нахрыхтэн» варшаўскага гестапа. Беластоцкая эйнзацкамандо дзейнічала на Беласточчыне да жніўня 1941 г., г.зн. да моманту стварэння на тэрыторыі «Бэцырк Бялісток» цывільнай улады. У выніку гэтай дзейнасці Беласточчына была засеяна брацкімі магіламі, дзесяткамі тысяч ахвяр гітлераўскага тэрору.

1 жніўня 1941 г. па загаду Гітлера беластоцкую акругу пераймае з рук вайсковай адміністрацыі надпрэзідэнт і гаўляйтэр Усходняй Прусіі Эрых Кох, які адначасова назначаецца начальнікам цывільнага ўпраўлення Беластоцкай акругі. Падпарадкоўваецца ён непасрэдна Гітлеру, не лічыцца шмат з Альфрэдам Розенбергам — галоўным камісарам па справах усходніх тэрыторый, дзейнічае на аснове спецыяльных паўнамоцтваў Гітлера, якія даюць яму права стварання нормаў шляхам загадаў. Эрых Кох пастанаўляе завесці на Беласточчыне «нямецкі парадак, нямецкую чысціню, нямецкую дбайнасць і нямецкі дух». Гэты дух моцна адчулі жыхары беластоцкай зямлі.

Эрых Кох у гэтым часе моцна заняты. Ён не толькі займае найвышэйшыя пасады ва Усходняй Прусіі, ён яшчэ і камісар Украіны. Час не дазваляе яму непасрэдна займацца «Бэцыркам Бялісток». Прысылае ён ў Беласток свайго прадстаўніка Могума, які правіць тут да канца 1941 г. Пасля яго ўладу пераймае ландрат Тыльзіта др Брыкс, які выконвае яе ад імя Коха да канца акупацыі.

Беластоцкая акруга падзелена на 7 раёнаў — крэйскамісарыятаў. Узначальваюць іх крэйскамісары. Крэйскамісарыяты ў сваю чаргу дзеляцца на амтскамісарыяты. Беластоцкая акруга налічвала 118 амтскамісарыятаў. Правілі імі амтскамісары.

З хвілінай пераняцця ўлады над Беласточчынай Эрых Кох прысылае з Ольштына аперацыйную групу тайнай паліцыі, якую ўзначальвае былы шэф гестапа з Сувалкаў гаўптштурмфюрэр СС Вальдэмар Махоль. Пачаткова гэта група з'яўляецца атрадам ольштынскай паліцыі. Замяняе яна эйнзацкамандо, хутка разрастаецца, разбудоўвае свае цэнтры і пераўтвараецца ў самастойны паліцыйны цэнтр. Дзеліцца ён на дзве асноўныя часткі: паліцыю бяспекі і парадкавую паліцыю. Начальнікам беластоцкай паліцыі бяспекі ад лістапада 1941 г. да чэрвеня 1943 г. быў штурмбамфюрэр СС др Вільгельм Альтэнлог, а ад чэрвеня 1943 г. да вызвалення оберштурмбамфюрэр др Герберт Цымерман. Паліцыю парадкавую ўзначальваў брыгадэнфюрэр СА Эўгэн Дорш.

Галоўнай паліцыйнай сілай Беластоцкай акругі была жандармерыя. На тэрыторыі акругі мела яна тры раённыя камендатуры, якімі кіравалі гаўптманшафтфюрэры. Цэнтральны раён абымаў тэрыторыі трох крэйскамісарыятаў: Беласток, Саколка, Граева. Кіраваў ім Лякэмакэр. Камендатура паўднёва-заходняга раёну абымала крайскамісарыяты Бельск і Ломжу. Кіраваў ёй Лямэрс. Урэшце, раён усходні — Гродна—Ваўкавыск — начальнік Штум.



 

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## МІКАЛАЙ СЯМЕНЮК



Мікалай Сяменюк — ураджэнец Старога Беразова (Гайнаўскі павет) працуе на Гайнаўскім прадпрыемстве лясных машын. Ён член Прэзідыума Павятовага праўлення ЗМВ, апякун гуртка ЗМВ у Старым Беразове і там старшыня рады клуба «Рух». Гэты сумленны і ахвярны працаўнік Гаймахлесу, маладзёжны дзеяч, вясковы актывіст. У Беразове моладзь са сваім апекуном М. Сяменюкам і старшынёю ЗМВ Грышам Асіпюком арганізавала «Нядзелю чыну». Звезены быў пясок на пляц перад клубам і наладжаны адрэзак дарогі непадалёк ад чыгуначнага пераезду.

Апрача гэтага, быў арганізаваны грамадскі чын пры будове спартыўнай пляцоўкі.

Варта дадаць, што клуб у Беразове атрымаў ў гэтым годзе 10.000 зл. узнагароды ад Ваяводскай камісіі конкурсаў у Беластоку як найлепшы вясковы клуб у катэгорыі вёсак, дзе няма сядзіб ГРН. У гэтым вялікая заслуга перад усім старшыні успомненай рады клуба М. Сяменюка.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ЦІ Ў БЕЛЬСКУ ПАТРЭБНА ЛАЗНЯ?

У Бельску Падляшскім ужо некалькі год плануецца будова лазні, але ўсё не хапае лімітаў. Справа адкладаецца на далейшы час. Як доўга будзем чакаць на гэты будынак, пакажа будучыня. На пабудову таргавіцы, некалькіх рэстаранаў, кавярняў і бюроўцаў грошы знайшліся, а на лазню няма. Бельск налічвае зараз 12500 жыхароў. Лік гэты хутка павялічваецца. Каля 1500 жыхароў у новых блоках карыстаюцца ўласнымі ваннамі ў сваіх кватэрах. 11 тысяч працоўных і іх сем'яў не маюць магчымасці памыцца. Яшчэ год таму назад была ў Бельску лазня, а ў ёй некалькі кабін з ваннамі і душам. Асобна была сапраўдная, як у нас кажуць, руская лазня, дзе можна было папарыцца, пабіць сябе бярозавым венікам. Будынак лазні стары, і нейкая камісія прызнала немагчымым далей карыстацца ім, бо нібы пагражаў заваленнем. Да гэтай пары не заваліўся аднак. Добра было б, каб знайшлася другая камісія, якая б пастанавіла разабраць стары будынак і пабудаваць новы для лазні.

Нядаўна ў «Трыбуне Люду» было напісана, што ў Катавіцкім ваяводстве не толькі будуюцца лазні, але курсуюць рухомыя вазы-лазні. Добра было б убачыць цяпер у Бельску хаця б адзін такі воз-лазню.

Бярэм прыклад з Савецкага Саюза. А там кожны калгас мае ўласную прыгожую лазню, а некаторыя сем'і нават прыхатныя лазні. А ў нас проста сорам, што няма так патрэбнага сацыяльнага абсталявання. Няма не толькі лазні, але няма дзе купіць хоць бы бляшаную ванну, а ў звычайнай місцы можна памыць рукі, ногі, нос, крыху вушы. Летам можна было б мыцца ў рэчцы Белцы, але фабрыкі — малачарская і рашарня — спусцілі ў яе ўсе свае бруды. У такой бруднай вадзе можна толькі больш яшчэ выбрудзіцца. Баюся, каб не назвалі нас брудасамі.

**Нэстар Перавой**

## ТППР НА БЕЛЬШЧЫНЕ

Нядаўна ў Бельску Падляшскім адбылося выяздовае пасяджэнне прэзідыума Ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы. На ім была праведзена ацэнка дзейнасці павятовых праўленняў ТППР у Бельску Падляшскім, Гайнаўцы і Сямяцічах.

Найлепш, найвышэй была ацэнена праца ТППР у Бельску. Гэтае праўленне заўсёды актыўнае, умела каардынуе працу з маладзёжнымі арганізацыямі, аддзелам асветы і культуры і культурнымі пляцоўкамі.

На пасяджэнні падкрэслівалася, што ў Бельскім павеце акружаны вялікай апекай магілы савецкіх воінаў. Асабліва школьная моладзь многа ўвагі ім прысвячае. Некаторым школам Бельшчыны наданыя імёны савецкіх салдат. Напрыклад, пачатковая школа ў Малінніках атрымала імя старшага лейтэнанта Аляксея Кузьмінова, а пачатковая школа ў Вольцы Выганоўскай — імя Мікалая Кужыльнага.

У XIII дэкламатарскім конкурсе, а таксама ў конкурсе на савецкую песню на Бельшчыне брала ўдзел больш 700 асоб.

ТППР цесна супрацоўнічае з павятовай бібліятэкай і яе філіяламі на вёсках.

Зараз у Бельскім павеце існуе 27 калектыўных членаў з 2520 асобамі, 17 гурткоў з 358 членамі і 52 школьныя гурткі, у якіх налічваецца 2230 асоб.

**Ю. А.**
Бельск




**Дарагое Сэрцайка!**

Я вучуся ў сярэдняй школе. Кажуць, што я не брыдкая. Аднак у мяне ёсць адзін знак, які не дадае мне прыгажосці, а хутчэй наадварот. Гэта чорны знак на носе. Ён у мяне, як памятаю, ад малога. Не ведаю, што рабіць, каб яго пазбыцца, бо з ім вельмі непрыгожа. Не ведаю, што рабіць. Ці пайсці да доктара? А калі так, дык да якога і куды? Ці мо самой знішчыць, але як?

Парай, дарагое Сэрцайка, буду за гэта табе вельмі ўдзячна. **П.Т.**
Беласток

Не раю табе брацца самой за лячэнне. Гэта не вельмі такія простыя справы, як табе здаецца. Таму ты ў гэтай справе звярніся да лекара-дэрматолага (скурнага) ў Беластоку — Wojewódzka Przychodnia Dermatologiczna ul. Manifestu Lipcowego Nr. 3. Лекар-спецыяліст прымае кожны дзень ў гадзінах ад $8^{00}$ — $17^{00}$. Там вось і звярніся за парадай.

**Сэрцайка**

## СПОРТ У ШКОЛАХ

Увесь верасень у пачатковых школах у Бельскім павеце адбываліся спартыўныя спаборніцтвы ў лёгкаатлетычным чатырохбор'і. 29 лістапада на стадыёне клубу «Сполэм» у Бельску адбыліся павятовыя спаборніцтвы з удзелам 6 найлепшых каманд. Першае месца заваявала пачатковая школа ў Орлі, другое — пачатковая школа №3 у Бельску, а трэцяе — школьнікі з Бранска.

Школа ў Орлі ўжо трэці раз закваліфікавалася на першае месца і таму на ўласнасць атрымала пераходны кубак аддзела асветы і культуры Прэзідыума Павятовай рады нарадовай.

У кастрычніку адбываліся спартыўныя школьныя спаборніцтвы ў легкаатлетычным пяцібор'і. Першае месца сярод жаночых каманд атрымалі дзяўчаты з Орлі, а другое — школьніцы са школы № 3 ў Бельску.

Сярод хлапцоў здабыла першае месца каманда са школы практыкаванняў Педагагічнага ліцэя ў Бельску, а другое — вучні з Бранска.

У спаборніцтвах у чатырохбор'і і пяцібор'і брала ўдзел больш 6500 школьнікаў.

На пахвалу заслугоўвае з Орлі настаўнік фізічнага выхавання Г. Леўчук і кіраўнік школы А. Карпюк, а з пачатковай школы № 3 ў Бельску — М. Дамброўскі і Ю. Суліма — кіраўнік школы.

Успомненыя настаўнікі прыдаюць вялікае значэнне спорту ў школе, і менавіта таму іх школьныя каманды часта прадстаўляюць Бельшчыну ў ваяводскіх спартыўных спаборніцтвах. **І. О.**
Бельск

Гэтыя адзінкі дзяліліся на павятовыя, тыя, у сваю чаргу, на атрады міжгмінныя, г.з. жандармерыю абтэйлюнг, якая абымала сваёй дзейнасцю тэрыторыю да трох амтскамісарыятаў. Найніжэйшай адзінкай быў пастарунак (постэн), які дзейнічаў у межах амтскамісарыята і складаўся з каля пяці жандараў і ад шасці да дзесяці паліцаяў дапаможнай паліцыі, пераважна мясцовых рэнегатаў. На тэрыторыі асабліва небяспечнай крайсфюрэр меў у сваім падпарадкаванні дадатковыя аперацыйныя атрады, г.з. жандармерыю ягдцуге (асабліва навокал Белавежскай пушчы).

На самым версе ўсёй гэтай паліцыйнай махіны «Бэцырк Бялісток» была яшчэ адзінка каардынацыйная-камандванне СС і паліцыі. Узначальваў яе да мая 1943 г. штандартэнфюрэр СС Вернер Фром, а пасля яго — брыгадэнфюрэр СС Ота Гельвіг.

З дапамогай так магутна разбудаванага паліцыйнага апарату гітлераўцы намагаліся падпарадкаваць насельніцтва Беласточчыны, замяніць яго ў паслушных нявольнікаў, паставіць на калені. Апарат гэты атрымаў неабмежаваныя правы. Эрых Кох уводзіць на Беласточчыне адзіную форму судоў — палявы суд, г.зв. штандсгеріхт, які ўзначальвае шэф гестапа пры ўдзеле вызначаных ім двух лаўнікаў. Справы вядуцца пры закрытых дзвярах.

Найбольшае насіленне тэрору ў Беластоцкай акрузе прыпадае на вясну і лета 1943 г. Са ўсёй строгасцю ажыццяўляюцца словы ката Беласточчыны Эрыха Коха, выказаныя ім у час перайманя ўлады над гэтай акругай: «Мэта майго праўлення — выслаць максімум людзей у глыб райха, а рэшту сцерці з паверхні зямлі».

Каб застрашыць насельніцтва, выклікаць сярод яго падазронасць, гітлераўцы прымянялі правакацыйныя штучкі. Пасылалі правакатараў, пераапранутых за партызанаў або ўцекачоў з нявольніцкіх лагераў. Яны заходзілі ноччу ў хаты, прасілі есці, прасілі паказаць дарогу. Гаспадар паверыў, накарміў, паказаў дарогу. На другую ноч фашысты акружвалі дом, арыштоўвалі ўсю сям'ю і расстрэльвалі за аказанне дапамогі «бандытам».

Таму насельніцтва падазрона адносілася да начных гасцей, у кожным бачыла правакатара.

Дайшлі мы да вёскі Шэшылы ў гміне Боцькі. У канцы вёскі жыла старэнькая бабуля Соня Тарлецкая з двума сынамі. Калі мы ноччу пастукалі ў яе акно, выглянула праз шыбу, упусціла ў хату. Пакуль запаліла святло, сыны завесілі вокны нейкім палатном. Потым яна і сыны прыглядаліся нам уважна. На іх тварах малявалася расчараванне. Відаць, у хату ўвайшлі не тыя, якіх тут чакалі. Але гаварыла з намі ахвотна, без праяваў страху, з чым сустракаліся мы ўсюды. Усё гаварыла за тое, што гэта сям'я была прызвычаена да такіх начных візітаў. Дазволіла нам умыцца, накарміла нас бульбай. Аднак на ўсе нашы просьбы звязаць нас з партызанамі, усміхалася і адказвала: — Ну былі... Зойдуць, пап'юць вады, памыюцца і пойдуць... Бог іх ведае куды...

Нашы просьбы і патрабаванні не далі выніку. Падзякавалі мы за пачастунак і выйшлі з хаты. Я вырашыў ісці на Сямяціччыну, у родную вёску Сыпкі Новыя. Там бацькі. Яны нас прымуць, звяжуць з даверанымі людзьмі. Пры іх дапамозе зачэпімся за штосьці.

**Ян Анацік**



Школа ў Ляшуках.
**Фота: Я. Ц.**

## ПАДРЫХТОЎВАЮЦЬ НОВУЮ ПРАГРАМУ

У Доме Настаўніка ў Гайнаўцы часта збіраюцца ўдзельнікі мастацкага гуртка, які існуе пры Гайнаўскім павятовым аддзеле БГКТ. Падрыхтоўваюць яны пад кіраўніцтвам настаўніка Віталіса Макаца і інструктара Яўгенія Буйноўскага новую праграму, з якой выступяць яшчэ ў гэтым годзе.

Удзельнікі гуртка, сабраўшыся ўвечары пасля працы, развучваюць новыя сцэнкі, некалькі беларускіх і папулярных салдацкіх польскіх песень.

**Ц. Я.**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Deszcz padał na szczęście" (czeski), 3—4. „Miałem 19 lat" (czeski), 5—6. „Hasło Korn" (polski), 7—8.

**Дубіны**

„Sabrina" (USA), „Największe widowisko świata" (USA), 7—8.

**Нараўка**

„Ja twój syn" (węgierski), „Życie zamku" (franc.), 4—8.

**Нарва**

„Jak się masz Vero" (węgierski), „Pamiętnik pani doktór" (franc.), 4—8.

**Чыжы**

„Pałace w płomieniach" (rumuński), „Pod karnawałową maską" (kubański), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**

„Spotkanie na przeprawie" (radz.), „Pięty jeździec Apokalipsy" (czeski), 4—8.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Jowita" (polski), „Hatari" (polski), 4—8.

**Орля**

„Pałace w płomieniach" (rumuński), „Pod karnawałową maską" (kubański), 4—8.

**Райск**

„Lekarstwo na miłość" (polski), „Gra bez reguł" (czeski), 4—8.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Gdzie jest generał" (polski), „Hasło Korn" (polski), 3—6.

**Міхалова**

„Skrzydła października" (radz.), 3—4. „Gra uczuć" (hiszpański) 5—6. „Hrabina Cosel" (polski), 7—8.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Przygoda na wagarach" (NRD), 3—4. „Strzelby Apaczów" (USA), 5—6. „Brzoza" (jugosł.), 7—8.

**Шудзялава**

„Na pomoc" (angl.), „Skąpani w ogniu" (polski), 4—8.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 4—8.

**Новы Двор**

„Dr Fabricjusz działa" (NRD), „Mocne uderzenia" (polski), 7—8.

**Ліпск**

„Pożegnania" (polski), „Stajnia na Salwatorze" (polski), 7—8.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6486




 

